ГРОДНА
№16 (568),
12 верасня 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Крыж як доказ любові



*Чаму мы ўшаноўваем крыж, хоць ён з'яўляецца інструментам жорсткай смерці і сімвалам найгоршых пакут?*

на старонцы 2

## Салезіянкі – гэта пра аптымізм




*Сёлета супольнасць сясцёр салезіянак у Беларусі адзначае 30-годдзе свайго служэння ў нашай краіне.*

на старонцы 6

## Адказнасць за выхаванне новых пакаленняў




*Пастава бацькоў з'яўляецца для дзяцей першым і самым значным узорам паводзін у кожнай сферы жыцця.*

на старонцы 7

# С. МАР'ЯНА АЛЕШЧЫК: "КАТЭХЕЗА – ГЭТА НЕДАСТАТКОВЫ МІНІМУМ. ТРЫВАЦЬ У СУЖЭНСТВЕ ВУЧАЦЦА Ў СУПОЛЬНАСЦІ"



*Сёстры назарэтанкі са сваімі падапечнымі падчас сямейных рэкалекцый*

**Ужо амаль паўгода Каталіцкі Касцёл перажывае Год сям'і. Цяпер рыхтуюцца новыя прапановы і інструменты для гэтага душпастырства. Разам з крытыкай сучасных хвароб сям'і адказныя ствараюць альтэрнатыву і пазітыўныя ініцыятывы.**

на старонцы 3

# ПРА РАЗУМЕННЕ АДЗІН АДНАГО, ВЕРУ Ў ЧАСЫ АТЭІЗМУ І ПАЧУЦЦЁ ГУМАРУ – 50 ГАДОЎ РАЗАМ



*З нагоды літургічнага ўспаміну бл. сясцёр мучаніц з Навагрудка, заступніц сем'яў, прыгледзімся да жыцця адной сужэнскай пары*

**У бягучым годзе Галіна і Рамуальд Ражко адсвяткавалі сваё залатое вяселле. Яны выхавалі шасцёра дзяцей, перажылі страту сына, сумленна працавалі – і ўсё гэта з верай у Бога. Цяпер сужэнцы працягваюць з радасцю прымаць на лета ўнукаў у вёсцы Старадубавая, дзе маюць гаспадарку.**

на старонцы 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## *Дарагія Чытачы!*

*Адзінаццаць блаславлёных сясцёр назарэтанак з Навагрудка падчас Другой сусветнай вайны прынеслі сябе ў ахвяру за сем'і. Мы можам быць упэўнены, што з кожнай ахвяры выходзіць новая сіла, якая ажыўляе веру нашых сем'яў.*

*Сёння, як ніколі раней, нам патрэбны сталыя ў веры бацькі, патрэбна сапраўднае сведчанне сужэнцаў і цэлых сем'яў, каб Евангелле перадавалася з радасцю і любоўю ўсім, асабліва тым, каго закрануў крызіс веры, хто апынуўся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі.*

*Праз заступніцтва сведкаў веры на нашай зямлі папросім добрага Бога, каб учыніў усе сучасныя сем'і ачагом веры, ахвярнай любові і глыбокай малітвы. Няхай нашы сем'і стануць сапраўднымі хатнімі Касцёламі, якія будуць выпраменьваць жывую веру.*



ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**13 верасня**

***Успамін св. Яна Хрызастома, біскупа і доктара Касцёла.***

*Ян нарадзіўся ў Антыёхіі (Сірыя) каля 349 года. Атрымаў грунтоўную адукацыю і прысвяціў сябе манаскаму жыццю. Праславіўся як залатавусны прапаведнік. Абраны біскупам Канстанцінопаля, ён аказаўся руплівым пастырам. Наклікаў на сябе нянавісць імператарскага двара і быў асуджаны на ссылку, дзе і памёр 14 верасня 407 года. Лічыцца найвялікшым прапаведнікам Усходняй Царквы.*

**15 верасня**

***Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай.***

*Праз успамін Марыі Балеснай усведамляем пакуты, што выпалі на долю Маці Божай, якая, як ніхто іншы, была з'яднана з Хрыстом, таксама ў Яго муках, цярпенні і смерці.*

**18 верасня**

***Успамін св. Станіслава Косткі, манаха.***

*Станіслаў нарадзіўся ў Росткаве (Польшча). Цудам вылечаны Найсвяцейшай Маці ад цяжкай хваробы, ён вырашыў далучыцца да Таварыства Езуса. Памёр у Рыме ў 1568 годзе ў арэоле святасці. З'яўляецца апекуном дзяцей і моладзі, а таксама літургічнай службы алтара.*

**21 верасня**

***Свята св. Мацвея, апостала і евангеліста.***

*Мацвей паходзіў з Капернаума. Займаў пасаду мытніка, калі Езус паклікаў яго стаць апосталам. Евангелле ад Мацвея найбольш дакладна паказвае сувязь паміж Старым і Новым Запаветам. Паводле традыцыі, Мацвей прапаведаваў Евангелле на Усходзе.*

**23 верасня**

***Успамін св. Айца Піо з П'етрэльчыны, прэзбітэра і манаха.***

*Айцец Піо (Францэска Фарджонэ) нарадзіўся 25 мая 1887 года ў вёсцы П'етрэльчына каля Беневента (Італія). Далучыўся да Ордэна Братоў Меншых Капуцынаў і прыняў пасвячэнне прэзбітэрату. Служыў вернікам праз духоўнае кіраўніцтва, яднанне грэшнікаў з Богам і разважлівы клопат пра хворых і бедных, служачы Божаму люду ў малітве і пакоры. Сваё зямное паломніцтва завяршыў 23 верасня 1968 года.*

# КРЫЖ ЯК ДОКАЗ ЛЮБОВІ

*працяг са с. 1*

**Крыж блізкі і дарагі нашаму сэрцу. Змяшчаем яго на сцяну кватэры, паказваем дзецям, каб яны пазналі ды ўпадабалі любоў Езуса і ў святле крыжа выраслі смелымі ды ахвярнымі людзьмі. Маленькі крыжык бацькі вешаюць на шыю дзіцяці, калі яно ўпершыню прыступае да св. Камуніі, а таксама са слязамі ў вачах дрыготкай рукой крэсляць знак крыжа на яго лбе, блаславляючы ў дзень шлюбу. Да крыжа працягваюць сваю руку хворыя людзі, шукаючы ў ім сілы ў цярпенні. Чалавек, які памірае, бярэ ў рукі крыж, каб у гадзіну смерці развітацца з зямным жыццём ды прывітаць вечнасць. І на хрысціянскай магіле ставіцца крыж.**

**Чаму мы ўшаноўваем крыж? Чаму бярэм яго ў рукі, хоць з'яўляецца інструментам жорсткай смерці? Чаму шукаем яго, нягледзячы на тое, што гэта сімвал найгоршых пакут? Чаму становімся на калені пад крыжам, схіляем перад ім галаву? Чаму з любоўю і пашанай цалуем яго?**

***Кс. Юрый Марціновіч***

Крыж – найвялікшы і самы пераканаўчы доказ Божай любові да чалавека. Бог на крыжы прызнаўся ў любові: не словам, а змучаным целам; не вуснай заявай, а кроўю, што цякла з ран. Можна памерці з-за недахопу любові альбо з-за яе. Абедзве сітуацыі адносім да Езуса, які памёр на крыжы як нехта адкінуты, нялюбы і адначасова як Той, хто любіць да канца, без абмежаванняў. Хрыстос учыніў крыж знакам сапраўднай любові – даруючай і гаючай.

> **Крыж з'яўляецца выратаваннем, збаўленнем, месцам аздараўлення і напаўнення жыццём. Крыж Хрыста – гэта знак перамогі над злом, д'яблам і смерцю. Гэта дрэва жыцця, якое вядзе да жыцця.**

Крыж – гэта таксама знак даравання Бога, які, гледзячы на жаль і пакорную просьбу грэшніка, прабачае яму нават самыя вялікія грахі. З вышыні крыжа любоў Усемагутнага сыходзіць на чалавека і сагравае яго, як сонечныя прамяні. Бог дакранаецца любоўю да балючых ран нашага жыцця. І мы спазнаём прабачэнне, вылячэнне, адпушчэнне грахоў цаной ахвяры Хрыста, які прынізіў сябе, будучы паслухмяным аж да смерці. Таму Бог узвысіў Яго па-над усім (параўн. Флп 2, 8–9).

Крыж быў узвышаны і асвечаны самім Хрыстом. Праз Яго крыжовую ахвяру Бог "узняў" чалавека. Паказаў моц любові, якая вызваляе ад зла, вяртае надзею, перадае сапраўднае жыццё. Любоў, што выцякае з крыжа, вяртае чалавеку належную годнасць.

Крыж адкрывае не толькі глыбіню Божай любові і прабачэння. Гэта таксама важны ўрок для людзей. Кожная чалавечая любоў тоіць у сабе крыж – нейкую балючую нечаканасць. Той, хто любіць, рана ці позна пераконваецца, што ўсё інакш, чым мела быць. Расчараванне – неабходны этап развіцця любові. Гэта момант падзення ілюзій, гэта блаславлёны момант праўды пра сябе і тых, каго любім. Такое знаёмства з сабой і іншымі можа быць вельмі балючым, цяжкім, а часам яно нават пераўзыходзіць нашы сілы. Для многіх людзей гэта канец любові, а між тым гэта яе найвялікшы шанс. Любоў пачынаецца, калі мы перастаём любіць свой уласны вобраз іншага чалавека і пачынаем любіць яго такім, які ёсць на самой справе. У кожнай любові пэўным чынам выпрабоўваецца вернасць і гатоўнасць дараваць. Жыццёвае выпрабаванне – гэта момант, які можа высветліць праўду любові – яе прыгажосць, сілу або яе далікатныя асновы.



jesuit.org.sg

У наш час чалавек усяляк уцякае ад таго, што цяжка, што баліць, што патрабуе ахвяр. Ён шукае любоў, якая нічога не каштуе, але такая не існуе! Сёння, на жаль, прасоўваецца вобраз нясталай любові, заснаванай толькі на пачуццях ці эратычным захапленні. Тое, што называецца любоўю, бывае эгаізмам, засяроджанем толькі на сабе і пошукам толькі сябе.

> **Свята Узвышэння Святога Крыжа адзначаецца 14 верасня.**

Веруючы чалавек, наадварот, шукае шчасце ў любові, але дзякуючы Евангеллю ведае, што шчасце ляжыць глыбей, а любоў расце, ачышчаецца, удасканальваецца больш у складаныя хвіліны, чым у хвіліны эмацыянальнага або пачуццёвага зачаравання.

Веруючы чалавек разумее, што там, дзе ёсць сапраўдная любоў, там ёсць і крыж, прычым не толькі свой, але і іншага чалавека. І гэты "не мой" крыж таксама трэба ўзяць на ўласныя плечы. Наколькі я здольны на такую любоў? За каго я гатовы памерці?

Нас кранае, калі хтосьці здольны ахвяраваць частку сябе, аддаць кроў, нырку, касцявы мозг, каб выратаваць іншых. Хрыстос аддаў за нас сваё жыццё, каб мы маглі жыць паўнавартасна і каб з Яго ахвяры чэрпалі сілы для ўздымання сваіх штодзённых крыжоў. Каб мы сапраўды любілі іншых так, як Хрыстос палюбіў нас.

Давайце верыць у Езуса Хрыста, узнятага на крыжы, таму што кожны, хто верыць у Яго, будзе жыць вечна!

# С. МАР'ЯНА АЛЕШЧЫК: "КАТЭХЕЗА – ГЭТА НЕДАСТАТКОВЫ МІНІМУМ. ТРЫВАЦЬ У СУЖЭНСТВЕ ВУЧАЦЦА Ў СУПОЛЬНАСЦІ"

працяг са с. 1

**Сёння размаўляю з прадстаўніцай беларускага сямейнага руху сястрой Мар'янай Алешчык. Назарэтанка займаецца працай з сем'ямі ўжо больш за 10 гадоў. Размаўляем пра прычыны праблем, шляхі іх вырашэння і прапанову беларускага Касцёла.**

Арцём Ткачук

*– Статыстыка датычна сем'яў у Беларусі вельмі сумная. Гэта і колькасць разводаў, і колькасць дзяцей, якія выхоўваюцца ў сям'і без таты. Чаму так?*

– Таму што сужэнцы, як мне падаецца, не маюць часу для сябе, для дзяцей і для Бога. Гэта асноўная і галоўная прычына.

*– А ці адчуваеце нейкія змены, трэнды ў тым, як жывуць сем'і ў апошнія 20 гадоў?*

– Гэта ўсё той жа недахоп часу. Ёсць праблемы з працай, праблемы з грашыма, сем'і шукаюць выхад, раз'язджаюца на заробкі. Паглядзець нават на рост колькасці дальнабойшчыкаў у нашым асяроддзі. Колькі яны бачацца са сваімі сем'ямі? Якое можа быць сямейнае жыццё? Яны па паўгода не бачаць сваіх дзяцей. Таму гэта, перш за ўсё, звязана з сацыяльнымі праблемамі нашага грамадства.

*– А маладыя сем'і чым адрозніваюцца ад старэйшых? Асабліва сем'і, якія ўжо прайшлі катэхізацыю і фармацыю ў сучасным Касцёле, ад тых, што ажаніліся яшчэ ў Савецкім Саюзе.*

– Старэйшыя сем'і трымаюцца традыцыі. Маладыя сужэнствы больш лёгка, магчыма, менш сур'ёзна падыходзяць да справы. Штосьці там не склалася – можна развесціся, паспрабаваць жыць асобна і г. д. Такое стаўленне таксама звязана з падыходам у грамадстве, у якім знаходзяцца каталіцкія сем'і. У наш час лічыцца цалкам нармальным сёння жыць з адным, а заўтра развесціся і жыць з іншым. Таму маладыя каталікі прапітваюцца гэтым духам сучаснасці. Таксама і Касцёл, магчыма, зрабіўся больш "лайтовы" ў плане катэхізацыі і падрыхтоўкі да сужэнства.

*– То-бок, маладыя каталіцкія сем'і менш трывалыя за старэйшых?*

– Мне здаецца, так. Хоць моладзь і настроена трываць да канца, але я размаўляю і з тымі, хто думае пра развод. Калі для нашых бацькоў развод быў трагедыяй і яны стараліся трываць да апошняга, то для маладых гэта нічога страшнага.

*– Атрымліваецца, увесь аб'ём катэхезы, якую праходзілі і праходзяць маладыя каталікі цягам апошніх 30-ці гадоў, не дае пажаданага плёну ў плане сямейнага жыцця?*

– Нельга сказаць, што ўвогуле не дае. Напэўна, сённяшняя моладзь лепш разумее галоўныя праўды веры. Старэйшыя абапіраюцца больш на традыцыю, а маладзейшыя – на розум, веды. Аднак жыццё – гэта не катэхеза. Тое, што чалавек 10 гадоў быў катэхізаваны, не азначае, што гэта будзе ўплываць на практыку яго сямейнага жыцця. Так, катэхеза з'яўляецца фундаментам, але яна не дае моцы і сілы, каб трываць у сужэнстве і знаходзіць правільныя падыходы ў вырашэнні праблем. Сямейнае жыццё – ахвяра, але не кожны гэта разумее. Часта людзям падаецца, што ўсё павінна быць намазана мёдам, а гэта не так.

*– Калі катэхеза не можа быць галоўнай падставай сямейнага жыцця, то што тады? Супольнасць?*

– Так, менавіта. Супольнасці вучаць практыцы. У парафіі, дзе я служу, мы з групай катэхетаў адназначна пагаджаемся, што катэхеза – гэта недастатковы мінімум. Мы стараемся, каб усе, хто наведвае заняткі па рэлігіі, удзельнічалі таксама ў нейкіх парафіяльных групах: тэатр, музыка, нейкія іншыя суполкі. Трэба вучыцца трываць у групе іншых людзей, будаваць адносіны, сябраваць. Гэтаму вучацца ў супольнасці. 45 хвілін катэхезы на тыдзень замала.

*– За апошнюю дзесяцігоддзе ў беларускім Касцёле ўзнік шэраг сямейных рухаў. Сужэнскія сустрэчы, Equipes Notre-Dame, Асацыяцыя пры кангрэгацыі сясцёр назарэтанак і іншыя. Гэта цешыць. Аднак колькасць людзей у падобных рухах усё-такі невялікая. Чаму каталіцкія сем'і не цягнуцца ў супольнасці?*

– Мне здаецца, каталіцкія сем'і цягнуцца, але не хапае супольнасцей. Існуюць гэтыя тры рухі, але яны дзейнічаюць у невялікай колькасці парафій. Калі б у кожнай парафіі была якаянебудзь супольнасць, якая яднала б сем'і, гэта была б моц. Нават там, дзе добра катэхізуюць і актыўна працуюць з дзецьмі і моладдзю, вельмі часта сем'і застаюцца на ўзбочча.

*– А ў чым праблема?*

– У зацікаўленасці парафіі. Адказнасць за парафію.

*– Адкуль гэта бярэцца? Праца з сем'ямі – гэта складана?*

– Так. Не хапае падрыхтаваных асоб, не хапае духавенства. Дастаткова, каб у парафіі былі прынамсі 1-2 сям'і, якія б хацелі яднацца з іншымі, і яны маглі б рухаць гэтую справу. Я асабіста ведаю толькі адну парафію, якая раз на год праводзіць фэст для сем'яў. Таму існуе шмат фактараў, гэта цэлы комплекс праблем.

*– У такім ключы школа сямейнага жыцця падаецца трапным адказам на гэты выклік.*

– Так, яна больш скіравана на працу з маладымі сужэнствамі: планаванне сям'і, якаснае жыццё і інш. Аднак, на жаль, нас замала – нават для ўласнага сямейнага развіцця, ужо не кажу пра быццё сямейнымі кансультантамі.

*– Слухаючы Вас, складваецца ўражанне, што ў беларускім Касцёле ўсё ёсць: і супольнасці, і месца падрыхтоўкі сямейных кансультантаў, і парафіі. Бракуе людзей і зацікаўленасці.*

– Так, гэта праўда.

*– Многія кажуць, што нашы бабулі і дзядулі мелі трывалыя сем'і і без супольнасцей. Што Вы на такое адказваеце?*

– Зноў жа, гэта праўда. Раней унутры сям'і было больш адносін, і будавалася ўсё на Богу. Сёння муж і жонка добра, калі ўвечары пасля працы пабудуць разам 2 гадзіны. Раней жа людзі болей часу праводзілі разам. Так мне здаецца, прынамсі.

*– Як справы ў Вашай Асацыяцыі? Чуў, што ў жніўні была агульнабеларуская сустрэча, шмат казалі пра аднаўленне.*

– Так, дзякуючы ўдзельнікам нашага руху, мы арганізавалі гэтую сустрэчу. Увогуле, як, зрэшты, і паўсюль, каранавірус унёс свае карэктывы. Супольнасці баяліся сустракацца, кожны адчуў і ўбачыў, што мы дзесьці затрымаліся. Людзі самі кажуць, што нам трэба аднаўляцца. Мяне вельмі цешыць, што гэтая патрэба ёсць і ініцыятыва не зыходзіць ад нас, духоўных асоб, а ад самых удзельнікаў нашых сустрэч. Таму, я думаю, мы ідзём у добрым накірунку. Паспрабуем аднавіцца, больш будаваць супольнасць.

Першыя гады нашай Асацыяцыі мне вельмі хацелася будаваць на фундаменце веры, а нават і тэалогіі. Многія сем'і не ўдзельнічалі ў катэхезе, таму хацелася з'яднаць агульны ўзровень падрыхтоўкі. Сёння ж для нас стала больш важным будаванне адносін у супольнасці, каб яна была жывая. Таму мне падаецца, што мы выходзім на нейкі іншы ўзровень, да сцапелі да даванння. Раней удзельнікі больш бралі – веды, духоўнае развіццё. Сёння супольнасць хоча даваць. Гэта цешыць.

*– Падзеліцеся нейкімі планамі?*

– Мы хочам, каб сем'і з адных гарадоў наведвалі сем'і ў другіх гарадах. Нас шмат, і многія не ведаюць удзельнікаў руху з іншых мясцовасцей. Хочам, каб людзі знаёміліся, давалі сведчанні.

Апошнія гады мы ладзім асобныя сустрэчы для мужчын і жанчын. Таксама плануем – спадзяёмся, што гэта прыжывецца, – каб падчас рэкалекцый для дарослых адбываліся адначасова рэкалекцыі для іх старэйшых дзяцей, моладзі. Сёлета ў нас нешта такое атрымалася, будзем рухацца далей у гэтым накірунку. У нас падрасло цэлае пакаленне – Асацыяцыі ўжо больш за 10 гадоў. Дзеці выраслі, і хочацца таксама ім даваць такую духоўную падтрымку.

На бліжэйшыя паўгода ўжо запланаваны нашы стандартныя сустрэчы: супольны Новы год (ужо 13-ты па ліку), рэкалекцыі выхадных дзён, асобныя рэкалекцыі для мужчын і жанчын. Таму планы невялікія, але спадзяёмся на плён.

*– Вы працавалі і з дзецьмі, і з моладдзю, а спыніліся на сем'ях і займаецеся гэтым ужо больш за 10 гадоў. Падаецца, Вы цалкам шчаслівая ў такой працы.*

– Як і ў кожным Ордэне, у нас складаюцца абяцанні паслухмянасці. Таму мае ўлады мне казалі: сёння будзеш тут працаваць з дзецьмі, заўтра – там з моладдзю. Гэта нармальна, і я ўсё прымала.

У пэўны момант мне сказалі, што трэба паспрабаваць працу з сем'ямі. Я не ведала, з чаго пачынаць. Паехала ў Рым, паслухала, як Асацыяцыя працуе ў іншых краінах, вярнулася ў Беларусь і распачала з нуля. Мы пачыналі проста з гарбаты, дзе я слухала людзей. Мне падабаецца будаваць адносіны з іншымі, і так гэтая праца з сем'ямі выкрышталізоўвалася. Гэта стала вельмі блізкім майму сэрцу, і падаецца, што ўжо на ўсё жыццё.

Не магу сказаць, як будзе далей, што мне скажуць мае ўлады, але за сем'і не перастану маліцца і буду адкрытая на іх заўсёды. Гэта маё пакліканне ў пакліканні. Я шчаслівая. Не ведаю, ці іншыя са мной шчаслівыя, але я шчаслівая.



**С. Мар'яна Алешчык CSFN – назарэтанка, сёлета адзначыла юбілей 30-годдзя манаскага жыцця. Дырэктар сямейнага руху пры Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта, куды ўваходзіць больш за 100 сем'яў.**

**Сустрэчы Асацыяцыі адбываюцца штомесяц у Гродне, Лідзе, Смаргоні, Мінску і Глыбокім. Далучыцца да руху можа кожны. Больш інфармацыі на старонцы ў інстаграме: https://instagram.com/nazaret_semja.**

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Папа Францішак ухваліў нормы для капітула базілікі св. Пятра

Папа зацвердзіў пераходныя нормы для капітула ватыканскай базілікі св. Пятра. Яны ўвойдуць у сілу 1 кастрычніка бягучага года і стануць часткай рэформы гэтай тысячагадовай структуры.

Новыя нормы, між іншым, тычацца ганарараў, якія атрымліваюць канонікі і памочнікі капітула. Цяпер яны не могуць быць аб'яднаны з іншымі фінансавымі паступленнямі за выкананне паслуг у Рымскай курыі і структурах, звязаных з Апостальскай Сталіцай. Нованаўвядзенні закранулі таксама ажыццяўленне эканамічнай дзейнасці, звязанай са Скарбніцай базілікі св. Пятра і продажам рэлігійных атрыбутаў. Цяпер усе гэтыя пытанні будуць знаходзіцца ў кампетэнцыі Фабрыкі св. Пятра. Капітул будзе надалей адказваць за захаванне і кіраванне маёмасцю і фінансавай спадчынай, якой цяпер валодае, і яе магчымы продаж.

### Ватыканская пошта выпусціла 7 новых марак

Дзве маркі наміналам 1,10 і 1,15 еўра прысвечаны Міжнароднаму эўхарыстычнаму кангрэсу, які прайшоў 5–12 верасня 2021 года ў Будапешце. На завяршальнай св. Імшы ў сталіцы Венгрыі прысутнічаў папа Францішак.

Іншыя маркі прысвечаны 700-годдзю з дня смерці паэта Дантэ Аліг'еры, 450-годдзю з дня нараджэння мастака Мікеланджэла Мэрызі да Караваджа, 100-годдзю Каталіцкага ўніверсітэта Найсвяцейшага Сэрца і 300-годдзю манаскай кангрэгацыі пасіяністаў. Акрамя таго, будзе выпушчана марка, прысвечаная 400-годдзю з дня смерці езуіта і тэолага-рэфарматара Раберта Беларміна.

### Святы Айцец ухваліў дэкрэты аб прызнанні гераічнасці цнотаў

Гаворка ідзе пра 37-гадовага італьянскага францысканца а. Плачыда Картэзэ (1907–1944). Падчас Другой сусветнай вайны ён дапамагаў ратаваць людзей, якіх праследавалі нацысты, за што трапіў у засценкі гестапа ў Трыесты, дзе памёр ад катаванняў.

Пантыфік таксама ўхваліў дэкрэт аб прызнанні гераічнасці цнотаў італьянскай свецкай верніцы Крысціны Чэлы Мачэлін (1969–1995), якая памерла ва ўзросце ўсяго 26 гадоў, адмовіўшыся лячыцца ад рака дзеля захавання здароўя і жыцця дзіцяці, што насіла пад сэрцам.

Трэці дэкрэт датычыць італьянкі Энрыкі Бельтрамэ Кватрокі (1914–2012), дачкі благаслаўлёных сужэнцаў Луіджы Бельтрамэ Кватрокі і Мары Карзіні, беатыфікаваных у 2001 годзе папам Янам Паўлам ІІ.

### Малітоўныя інтэнцыі на верасень

**паўсюдная**

Молімся, каб усе мы здзяйснялі мужны выбар на карысць стрыманага і экалагічна ўраўнаважанага ладу жыцця, радуючыся маладым людзям, якія рашуча ў гэта ўцягнуты.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан благаславіў дзяцей і моладзь у новым навучальным і катэхетычным годзе.

# 30-АЯ ГАДАВІНА СМЕРЦІ КС. ІНФУЛАТА МІХАЛА АРАНОВІЧА




**30 жніўня ў гродзенскім касцёле Адшукання Святога Крыжа (пабернардынскі) адбылася св. Імша ў 30-ую гадавіну смерці кс. інфулата Міхала Арановіча, шматгадовага пробашча гэтай парафіяльнай супольнасці і генеральнага вікарыя Гродзенскай дыяцэзіі.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

У савецкія часы кс. Міхал доўга быў адзіным каталіцкім святаром у Гродне. Як арханёл Міхал, ён бараніў Божую справу на працягу 59-ці гадоў служэння, з якіх больш за 40 прыпадае на Гродна.

Эўхарыстыю за душпастыра, заслужанага не толькі для горада і дыяцэзіі, але і для ўсёй краіны, узначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч з удзелам генеральнага вікарыя Гродзенскай дыяцэзіі біскупа Юзафа Станеўскага і святароў. Прысутнічалі таксама шматлікія сёстры з Кангрэгацыі Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта, якія вельмі ўдзячны спачыламу святару. З самага пачатку свайго служэння ў Гродне ён клапаціўся пра супольнасць сясцёр назарэтанак, у савецкія часы вымушаную дзейнічаць у вялікай таямніцы.

На Імшы сабраліся таксама вернікі, каб у малітве выказаць удзячнасць Богу за дар сустрэчы гэтага святара, які ахвярна служыў людзям і месца прабывання якога стала цэнтрам Касцёла не толькі Гродзеншчыны, але і ўсёй Беларусі. Да яго скіроўваліся вернікі з цэлай краіны, каб паўдзельнічаць у набажэнстве і проста атрымаць добрую пастырскую параду.

Святар адышоў у вечнасць 30 жніўня 1991 года, пахаваны на старых гродзенскіх могілках.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ІСПАНІЯ.** Дыяцэзія Кардоба ў Іспаніі адкрыла Дом св. Габрыэля для былых вязняў. Ён знаходзіцца ў колішняй семінарыі Маці Божай Анёльскай (Санта-Марыя-дэ-лос-Анхелес) у маляўнічым парку Сьера-дэ-Гарначуэлас. Семінарыя была пабудавана ў 1950 годзе і дзейнічала да пачатку 70-ых гадоў. У яе сценах вучылася каля 300 семінарыстаў. Потым на працягу многіх гадоў будынак пуставаў. Пасля капітальнага рамонту ён быў пераўтвораны ў цэнтр для былых зняволеных. Першыя кандыдаты ўжо звярнуліся ў Дом св. Габрыэля.

**РАСІЯ.** У Самары па загадзе ўлад пачаўся знос каталіцкага касцёла. Фармальнай прычынай такога рашэння гарсавета з'яўляецца нібыта незаконнае ўзвядзенне гэтага аб'екта 5 гадоў таму. Двухпавярховы будынак храма быў пабудаваны ў 2016 годзе, але – па словах улад – гэта было зроблена без неабходных будаўнічых дакументаў і іншых дазволаў.

**ІТАЛІЯ.** Канферэнцыя біскупаў Швейцарыі і прэс-служба Святога Пасада абвясцілі, што папа Францішак прызначыў новым капеланам Папскай швейцарскай гвардыі 50-гадовага айца бенедыктынца Калумбана Рэйхліна. Ён уступіць на пасаду 1 кастрычніка замест 36-гадовага кс. Томаса Відмера, які вернецца ў Швейцарыю. Швейцарская гвардыя служыць папам з 1506 года. Яе члены адказваюць за асабістую абарону Святога Айца і кантралююць уваходы ў Ватыкан. Дом св. Марты, дзе жыве Пантыфік, ахоўваюць часткова гвардзейцы, а часткова – ватыканская жандармерыя.

**ПОЛЬШЧА.** Завяршылася перэгрынацыя сімвалаў Сусветных дзён моладзі. Яна ўяўляла сабой адзін крыж – той, які быў падораны моладзі Янам Паўлам II, адзін абраз – Маці Божай "Salus Populi Romani", адзін аўтобус, які перавозіў сімвалы ад парафіі да парафіі, ды некалькі дзесяткаў наведаных супольнасцей і парафій. Гэта 4 500 кіламетраў, маладыя і сталыя людзі, сабраныя на чуваннях, Імшах, адарацыях і набажэнствах. Гэта таксама даволі дзівосны маршрут: ад Снежніцы – прытулку ў Бескідзе Высповым, – праз Забаву, Люблін, Жэшаў, Брок, Беласток, Элк, Яраслаў, Сандамір, Чанстахову, Фестываль жыцця ў Какотцы, Кальварыю Зэбжыдоўскую, Скаржыска-Каменную, Кельцы, Радам, Варшаву, Каліш, Кашалін, Гданьск ажно да Вестэрплатэ.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# КАСЦЁЛІК ВЯСКОВЫ, ПРЫГОЖЫ, ЯК ШЭДЭЎР…

*Андрэй Вашкевіч*




*Парафіяльны касцёл у Лунне*

Няма ў бліжэйшых ваколіцах Гродна мястэчка больш захаванага, чым наднёманскае Лунна. Дзесяткі цагляных "пажыдоўскіх" камяніц, праваслаўная царква ды сімпатычны касцёл быццам паглыбляюць у атмасферу пачатку XX стагоддзя, калі на гэтай зямлі мірна суіснавалі іудзеі ды прадстаўнікі розных хрысціянскіх канфесій. Пашанцавала Лунну і на знакамітых асоб. Не адзін раз наведвала мястэчка каралева Бона Сфорца, малілася ў мясцовым касцёле знакамітая пісьменніца Эліза Ажэшка, рупліва збірае гісторыю Лунна сучасны яго летапісец Лявон Карповіч…

Паводле Карповіча, першы касцёл у Лунне паўстаў у 1530-ых гадах. Яго зафундавала каралева Бона Сфорца як філіял парафіі ў недалёкай Воўпе. Да цяперашняга часу каля касцёльнай агароджы ляжыць вялікі камень з чырвонага граніту, які нібыта Бона заклала ў фундамент таго касцёла. Каралева так упадабала гэтыя мясціны, што ў 1546 годзе стварыла ў Лунне асобную парафію, забяспечыўшы яе трыма валокамі зямлі, што складала больш за 60 га ворнай зямлі і дазваляла мясцоваму пробашчу не клапаціцца пра хлеб штодзённы, а займацца духоўнымі патрэбамі сваіх парафіян. Па звестках канца другой паловы XVII стагоддзя, касцёл у Лунне быў мураваны і адбудаваны пасля разбуральных войнаў сярэдзіны таго стагоддзя.

У 1782 годзе пасля пажару ў Лунне з каралеўскай фундацыі паўстаў новы касцёл пад тытулам св. Ганны. Ён быў пабудаваны ў класіцыстычным стылі, але атрымаў сучасны выгляд пасля рамонту, праведзенага на сродкі княгіні Марыі Друцкай-Любецкай у 1890-ых гадах. Інтэр'ер касцёла ўпрыгожваюць 7 драўляных алтароў. Асаблівую ўвагу прыцягвае абраз Маці Божай з Дзіцяткам у пазалочанай сукенцы. Ён, верагодней за ўсё, паходзіць з ранейшага касцёла, аб якім нічога не вядома. А вось грошы на алтар з гэтым абразом выдзеліла Эліза Ажэшка. У святыні захавалася і ложа пісьменніцы, бо менавіта тут яна ўдзельнічала ў св. Імшы, калі жыла ў недалёкіх Мінявічах і ў нядзелю прыязджала ў Лунна.

Менавіта Эліза Ажэшка, пішучы пра блакітны Нёман і белыя акацыі ў мінявіцкім двары, згадала і "касцёлік вясковы, прыгожы, як шэдэўр эпохі рэнесансу". "Ёсць блізка касцёлік невялікі, ладна збудаваны і густоўна ўбраны, каторы кожную раніцу, поўдзень і вечар найцудоўней звоніць на Анёла Панскага. Не магу перадаць, якое дзіўнае ўражанне спраўляе на мяне адгалос гэтага звону. Штосьці нібы заклік да вышыні, нібы музычныя гукі, што рассыпаюцца ў паветры. Упершыню прыйшла мне таксама думка, які прыгожы і глыбокі касцёльны звычай узгадваць тых, хто адышоў", – такім чынам у 1902 годзе апісала знакамітая пісьменніца кацёл святой Ганны ў Лунне.

У святыні знаходзіцца некалькі памятных таблiц, прысвечаных фундатарцы перабудовы касцёла Марыі з Шэметаў Друцкай-Любецкай (1833–1897) і Матэвушу Ромеру (1848–1900), прадстаўнікам рода Чахоўскіх. Каля касцёла захаваўся некалькі помнікаў, сярод якіх адзін з імёнамі Іосіфа і Разаліі Каменскіх. Гэта сваякі Элізы Ажэшкі па лініі бабулі, а таксама бацькі паўстанца 1863 года Яна Каменскага, правобраза Андрэя Карчынскага, аднаго з герояў аповесці Элізы Ажэшкі "Над Нёманам".

Касцёл у Лунне – выдатнае месца для ціхай малітвы за Айчыну, а таксама за пакаленні тых, хто адышоў да Пана Бога, зрабіўшы на зямлі ўсё, што павінен быў зрабіць.

# ПРА РАЗУМЕННЕ АДЗІН АДНАГО, ВЕРУ Ў ЧАСЫ АТЭІЗМУ І ПАЧУЦЦЁ ГУМАРУ – 50 ГАДОЎ РАЗАМ

працяг са с. 1

*Кацярына Паўлоўская*



***50 гадоў – як Вы глядзіце на гэты час?***

***Рамуальд:*** З задавальненнем. Як гавораць, столькі пражыць сумесна і ні разу не пасварыцца – гэта неверагодна. Канешне, былі і ў нас агрэхі – моманты, што разазлуешся трохі. Але мы хутка адыходзілі. Не было такога, каб некалькі дзён ці тыдняў не размаўлялі, каб глядзець адзін на аднаго не маглі.

Адзін выпадак магу расказаць. Мы тады толькі ажаніліся. Я вучыўся на завочным у інстытуце і мусіў пільна зрабіць заданне. А тут Галя прыходзіць і пачынае канькаць: “Я да мамы хачу, давай хоць на 5 хвілін пад’едзем”. Згадзіўся. Селі на матацыкл, трохі ад’ехаліся. “Ой, дакументаў не ўзяў!” – успомніў я і, развярнуўшыся, вярнуўся дадому. Прыехаў, паставіў матацыкл пад сцяну ды кажу: “Пасядзі, я зараз”. А сам сеў і стаў пісаць, займацца. Яна чакала, чакала... Чую: прыйшла, адчыніла дзверы, злосна паглядзела, зачыніла і больш не прыходзіла. Пазней спыталася ў мяне, чаму так зрабіў. А я адказаў: “Галя, ты можаш зразумець, што мне трэба гэта зрабіць і заўтра адвесці?”. І ўсё ўжо было ў парадку.

***Колькі Вам было гадоў, калі ажаніліся?***

***Галіна:*** Мне было 22, а Раману 28 – на 6 гадоў старэйшы.

***А як і дзе Вы пазнаёміліся?***

***Галіна:*** Ведаем адзін аднаго са школы. Я ў Падліпкі хадзіла з першага класа, а ён прыйшоў у 8-ы. Пасля 10-га паступіў у тэхнікум, а затым у армію пайшоў, і мы не бачыліся.



Я, як скончыла тэхнікум, у краме тут працавала. Раман прыйшоў з бацькам нешта купляць: у ваеннай форме, “прыгажун мужчына”. І штосьці мне заклініла, я памылілася. Ён нічога не сказаў. А бацька ўсміхнуўся і папрасіў пералічыць яшчэ раз. Я ўжо зразумела, што няправільна палічыла, і тады не толькі твар, але і вушы ў мяне чырвоныя ад сораму сталі *(смяецца – заўв. аўт.)*.

Застаўся ён тут працаваць. Танцы ў клубе, на рэпетыцыі хадзілі... Так паціху раз правёў дадому, другі раз. А потым пост. Прыйдзе ў магазін, купіць – і нічога. Я ўжо думала, што ўсё, прайшла любоў. “Ну, не – значыць не”. Ужо да мяне і другі хлопец стаў падыходзіць... А пасля Раман аб’явіўся, што ў посце мама яму не дазваляла хадзіць да дзяўчат.

***Рамуальд:*** Бацькі строгія былі: пост ёсць пост. І яе бацькі, і мае.

***Вы адразу і вянчаліся, і распісваліся?***

***Галіна:*** Мы распісаліся 17-га ў Падліпках у сельсавеце. Гэта была субота. А 25-га, у нядзелю, адкрыта павянчаліся.

***Рамуальд:*** Атэізм быў тады, канешне.

***Галіна:*** Пасля нас дзесьці ў райкоме “вывесілі”, што ажаніліся так.

***А як рашыліся ў такі час? У Вас не стаяла пытанне, каб не вянчацца?***

***Аднагалосна:*** Не, не стаяла.

***Галіна:*** Раман не быў партыйным. У камсамоле, але непартыйны. Адзінае, калі Ваню хрысцілі – пятае дзіця, – то ўтаілі. Рамана правяралі на працы. Ён прыязджаў сюды з горада, мы разам ездзілі на Імшу, а назаўтра ўжо начальства ведала, што ён быў у касцёле. Але заўсёды казаў, што мае сталых бацькоў і павінен іх адвезці туды.

***Рамуальд:*** Мяне нават сакратар райкома камсамола выклікаў па гэтым пытанні. А я гаварыў так: “У вас бацькі ёсць? Вы іх паважаеце? Што ў нас напісана наконт бацькоў у Канстытуцыі нашай альбо ў Евангеллі? Шануй сваіх бацькоў. Вось я і шаную іх. Мне тата купіў аўтамабіль і сказаў: «Сынок, бяры гэтую машыну, але ты павінен пры любых абставінах нас з мамай адвезці да касцёла». І гэты іх завет я выконваю. Што яшчэ ад мяне трэба? Я што, п’ю на працы? Не выконваю сваіх абавязкаў па службе? Паглядзіце, прэміі кожны раз атрымліваю, падзякі”. І на Канстытуцыю спасылаюся. Казаў: “У нас у Канстытуцыі ясна запісана, што незалежна ад веравызнання, ты можаш выбірацца ў любыя органы савецкай улады”.

Па сутнасці, да перабудовы ў мяне ўвесь час было змаганне з партыяй. Я меў такія аргументы, што мог даваць адпор і пастаянна адкрыта ездзіў у касцёл. Сваю работу ведаў, людзей паважаў, і яны мяне паважалі, начальства паважала. Калі шлюб браў, сябар замовіў аўтобус у аўтобусным парку.

***Галіна:*** Мы на хутары жылі, кругом лес. Прыехаў галоўны інжынер, галоўны агранам, старшыня сельсавета. Яны спілавалі бярозу і перавалілі праз дарогу, аўтобус пад’ехаў і стаў. Сват прыляцеў, пачаставаў іх – бярозу адцягнулі.

Старшынёй сельсавета была мая аднакурсніца з тэхнікума. Яна потым казала, што я “распісвацца прыехала ў спадніцы, а на шлюб апранулася, як каралева”. На тыя часы ў мяне была прыгожая сукенка, з люрэксам. Дваюрадны брат з Польшчы матэрыял прывёз.

***Рамуальд:*** Ты і сама была прыгожая. І цяпер засталася.

***Часта пары спярша прыціраюцца адно да аднаго. Вы, калі пачыналі жыць разам, сварыліся?***

***Галіна:*** Не сварыліся. Хіба што я на пачатку папускала. Нават больш у адносінах не да мужа, а да бацькоў, пакуль жылі разам. Пасля муж атрымаў кватэру, перабраліся ў Гродна. У нас тады было пяцёра дзяцей. Потым ізноў вярнуліся назад *(у в. Старадубавая – заўв. аўт.)*.

***Рамуальд:*** Самы галоўны складнік таго, што мы так доўга разам, – уменне саступаць і разумець адзін аднаго. І я мог папсіхаваць трохі, і яна. Мы тут пабурчалі, тут абняліся, пацалаваліся і пайшлі спаць. Канешне, у жыцці было рознае: і белыя палосы, і чорныя.

***Галіна:*** Чорныя палосы... Самае наша вялікае гора – гібель сына Паўла. Ён скончыў тэхнічны каледж у Гродне. Пасля паступіў у БНТУ *(Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт – заўв. аўт.)*. Адвучыўся на стацыянары і атрымаў скіраванне на Мінскі трактарны завод у аддзел галоўнага канструктара. Стаў там працаваць.

У той дзень праходзіла нейкае спаборніцтва па футболе. Паўлік таксама там быў. Потым яны кампаніяй неяк апынуліся каля трактарнага завода, у кафэ, была вечарына. Адтуль яму трэба было ў супрацьлеглы бок ісці, але чамусьці накіраваўся ў іншы і – апынуўся на рэльсах.

Я дагэтуль лічу, што Паўлік не сам туды пайшоў... Спісалі на неасцярожнасць. Мы яго нават не бачылі, бо цела было надта параненае. Так і пахавалі. Усё яшчэ не верыцца, што ён там ляжыць... Гэта для нас загадка, і думаю, што калі-небудзь яна праясніцца.

***Рамуальд:*** Якія там былі абставіны, што там здарылася – ніхто не ведае. Факт, што дадому сын не дайшоў. Я ездзіў у Мінск пасля пахавання, задаваў пытанні, але не атрымаў канкрэтных адказаў. Гэта быў самы змрочны час.

***Як Вы захавалі сваю сям’ю? Як у такіх сітуацыях дапамагчы адно аднаму? Бо не ў кожнай пары атрымліваецца перажыць страту дзіцяці.***

***Рамуальд:*** Дзеля дзяцей. Жыццё працягваецца.

***Галіна:*** У нас нават гаворкі не ішло, што разыдземся. Аднойчы ў касцёле на Дзевятоўцы я не магла стрымаць слёз. А. Вальдэмар Слота які быў у той час пробашчам, убачыў, што я плачу, і пасля Імшы падазваў да сябе. Сказаў тады: “Спадарыня, даверцеся Богу. Ён забірае чалавека ў найбольш адпаведны час. Гэта значыць, што ваш сын дарос да Неба і гатовы да сустрэчы з Панам. Бог бачыць будучыню. Магчыма, Павел пазней учыніў бы нейкі грэх. Пан яго ад гэтага засцярог. Даверцеся Богу”. Такія былі яго словы, і яны мне трохі камень з душы скінулі.

***Як не разысціся, калі расчараваўся ў другім чалавеку? Як паверыць, што можна жыць адзін з адным, і гэты адзін чалавек будзе цікавы другому да канца жыцця?***

***Галіна:*** Давяраць і думаць аб тым, што ты выбраў чалавека на ўсё жыццё. Прысягнуў, што не пакінеш яго ажно да смерці.

Мы жаніліся па любві, як гаворыцца. Перад гэтым сябравалі тры з паловай гады. Мы ведалі, што жэнімся на ўсё жыццё. Колькі нам Бог вызначыў, столькі і пражывём. І ніколі не было такой думкі – каб адысці.

***Рамуальд:*** Неабходны сакрамант сужэнства. Трэба, найперш, усведамляць, што выбіраеш чалавека на ўсё жыццё. Відавочна, не могуць ужыцца пары, дзе кожны хоча камандаваць. Яны не ўступаюць адзін аднаму, і гэта пачынае злаваць. Пачынаюцца склокі, нянавісць – і людзі разводзяцца. Я так мяркую.

***Галіна:*** Многія разводзяцца праз рэўнасць. У нас ніколі не было рэўнасці, як і повада для яе.

***Рамуальд:*** Было такое, што паеду на сесію на месяц, вяртаюся, а мне шэпчуць, што Галя хадзіла туды ці туды. Адной асобе, памятаю, груба адказаў, а так жартамі: “Я цешуся, калі на маю жонку яшчэ звяртаюць увагу”. У нас не было кантролю, усё было пабудавана на даверы.

Так сужэнства і захоўваецца: давер адзін да аднаго, вера ў Бога. Мы Імшаў не прапускалі. Я вось і ў Мінску, калі ў камандзіроўках быў ці на курсах, то заўсёды заходзіў у Чырвоны касцёл. Мужыкі пытаюцца ў нядзелю: “Куды ты?”. Я ўсім не распавядаў, з адным калегам дзяліўся, што на Імшу іду, і ён разумеў. Перад іншымі казаў: “Мужыкі, пачакаем яго. Справы мае”. Вяртаўся я, тады і стол накрывалі, сядалі, па чарачцы выпівалі, вось так і вечар праходзіў.

Дзе бываў, не прамінаў, каб у касцёл зайсці.

***Цяпер многія пары не разумеюць, навошта распісвацца і навошта вянчацца. Як бы Вы адказалі на гэтае “навошта”?***

***Галіна:*** Хіба нам у дзяцінстве ўлажылі, што жыць без шлюбу – гэта вялікі грэх. Мы старой закалкі.

На 25 гадоў шлюбу на Дзевятоўцы нас ксяндзы бласлаўлялі. У той час тры месяцы было нашай малодшай дачцэ Вераніцы. Яна нарадзілася, калі я мела 47 гадоў, а Раман – 54. Для ўсіх, канешне, гэта быў шок, а для нас – падарунак на сярэбранае вяселле. На 30-ую гадавіну мы таксама Імшу запісвалі, блаславіў нас святар. На 40-годдзе былі ў Адэльскім касцёле. Цяпер вось на 50-годдзе. Я лічу, што мы пражылі так з Богам, з Божым бласлаўленнем.

Мае бацькі таксама 50 гадоў сужэнства святкавалі ў касцёле. І Рамана бацькі 50 гадоў разам пражылі, таму мы шчаслівыя.

***Рамуальд:*** Я лічу, што мы гэтыя 50 гадоў прайшлі з годнасцю, вытрымалі ўсе выпрабаванні.

# САЛЕЗІЯНКІ – ГЭТА ПРА АПТЫМІЗМ

працяг са с. 1

**19 верасня супольнасць сясцёр салезіянак у Беларусі адзначае 30-гадовы юбілей сваёй прысутнасці ў краіне. Менавіта ў гэты дзень тры дзесяцігоддзі таму ў Смаргонь з Польшчы прыбыла с. Тэрэса Сольнічэк FMA. Маладая манахіня на пачатку свайго місійнага служэння прагнула трапіць у Бразілію, але апынулася каля вытокаў салезіянскай духоўнасці ў постсавецкай атэістычнай Беларусі. Успамінамі пра гэты перыяд сястра дзеліцца сёння з намі.**

Ангеліна Марцішэўская

*„Што мы такога зрабілі, што Бог нас так палюбіў і вырашыў выслаць да нас сясцёр?”.* Гэта было першае, што мы пачулі, калі яшчэ з дзвюма манахінямі прыбылі ў Смаргонь. Сталыя людзі ставіліся да нас з вялікай цеплынёй. Дакраналіся да нас, нібы да золата, і было бачна, што моцна прагнулі Бога. Парафіяне былі бедныя, але нягледзячы на гэта, дзяліліся з намі ўсім, чым маглі.

У моладзі і дзяцей мы выклікалі цікаўнасць. Іх не бянтэжыла, што на катэхезу прыходзілася збірацца ў вільготным падвале без вокнаў – іншага месца не было. Аднак кідалася ў вочы тое, што хлопцы і дзяўчаты разгубленыя. Яны да канца не разумелі, да каго прыслухоўвацца: да бабулі, якая захавала веру з былых часоў, або да бацькоў, якія былі абыякавыя да рэлігіі. Са свайго боку мы стараліся дапамагчы дзецям усвядоміць іх уласнае ўяўленне пра Бога, распавесці пра духоўныя каштоўнасці і паставіць іх перад свабодным выбарам.



С. Тэрэса Сольнічэк FMA за плячыма мае 14 гадоў служэння ў нашай краіне

Бо калі справа тычыцца духоўнасці, не можа быць ніякага прымусу. Цяпер, калі я сустракаю сваіх колішніх вучняў, ужо дарослых, я шчаслівая, бо заўважаю, што ў іх няма ўнутуранага падзелу – яны аднолькавыя ў касцёле, сярод сяброў, у сям'і і ў працоўным калектыве. Закладзенае зерне прарасло.

**Кангрэгацыю Дачок Марыі Успамогі Хрысціян заснавалі св. Ян Боско і св. Марыя Дамініка Мадзарэла ў Італіі ў 1872 годзе. Яна накіравана на выхаваўчую працу з маладымі людзьмі.**

Наша супольнасць праводзіць катэхезы, пачынаючы ад дзіцячага садка і да 11-га класа. Намагаемся стварыць месца – араторый, – дзе хлопцы і дзяўчаты могуць проста добра сябе адчуваць, быць у бяспецы, дзяліцца ўсім, што маюць на душы. Адно з нашых галоўных заданняў – праз гульні вучыць дзяцей працаваць над сваім характарам. Пасля яны разумеюць, што не заўсёды важная перамога або ўласная значнасць. Што самае галоўнае ў любой супольнасці – гэта заўважыць іншага чалавека.

На дадзены момант у Беларусі дзейнічае дзве супольнасці сясцёр салезіянак – у Смаргоні і ў Мінску. Абедзве складаюцца пераважна з сясцёр беларусак. І гэта наша вялікае дасягненне, што маем пакліканні з тутэйшых зямель. Думаю, патэнцыяльных кандыдатак прываблівае ў нас, перш за ўсё, радасць, якая льецца знутры. Неадназарова чула ад дзяўчат: ***„Сястра, як так атрымліваецца, што Вы кожны дзень у адной і той жа сукенцы, а такая шчаслівая?”.***

**Каб атрымаць адказ на гэтае пытанне, с. Тэрэса запрашае ўсіх, хто чуе пакліканне да манаства, наведаць іх супольнасць і бліжэй прыглядзецца да сясцёр. Радыя ўсім!**

# СВ. СТАНІСЛАЎ КОСТКА: ГЕРОЙ ДЛЯ МАЛАДЫХ

**Для моладзі надышоў час, які часта ставіць іх перад новымі выклікамі. А адным з найлепшых у пераадоленні праблем з'яўляецца св. Станіслаў Костка, які для дасягнення сваёй мэты супраціўляўся магутным бацькам, не пазбягаў працы, што не адпавядала яго становішчу дваранін, не баяўся цяжкасцей самотнай вандроўкі з Вены ў Рым і не скардзіўся падчас хваробы. Малады святы можа быць добрым дарадчыкам для хлопцаў і дзяўчат на пачатку новага навучальнага года – у час прыняцця новых рашэнняў і планаў.**



**Літургічны ўспамін апекуна моладзі прыпадае на 18 верасня.**

**Станіслаў Костка – езуіт, святы Каталіцкага Касцёла. Нарадзіўся, верагодна, у снежні 1550 года ў Ростакве каля Пшасныша (Польшча). Калі яму споўнілася 14 гадоў, быў накіраваны ў езуіцкія школы ў Вене. Праз год цяжка захварэў. У бачанні яму з'явілася Маці Божая, якая ўсклала Дзіцятка Езуса на яго рукі. Наступнай раніцай Станіслаў устаў цалкам здаровым з моцным жаданнем увайсці ў Таварыства Езуса. Бацькі не дазволілі хлопцу ўступіць у ордэн езуітаў. Тады ён патаемна пакінуў Вену, пешшу накіраваўшыся ў Рым. Быў прыняты ў навіцыят. Ва ўзросце 18-ці гадоў Станіслаў Костка склаў манаскія абяцанні. У тым жа годзе памёр ад малярыі. Праз два гады яго магілу адкрылі – паводле паданняў, цела не расклалася.**

### УРОКІ АД СВ. СТАНІСЛАВА

1. Станіслаў можа навучыць моладзь цярпенню і настойлівасці. Маладыя людзі часта чакаюць асаблівага стаўлення. Між тым Костка не баяўся працаваць на кухні і шараваць калідоры ў доме святара, бо гэтае выпрабаванне магло наблізіць яго да дасягнення мэты. Ён не чакаў спецыяльнага запрашэння з Рыма і не расхалоджваўся з-за першых нягод, якія спаткалі ўжо ў Вене.

2. Вельмі натхняльным у гісторыі Станіслава з'яўляецца яго непланаванне. Мы часта думаем, што мусім напісаць сцэнарый свайго жыцця, а потым рэалізаваць яго. Але ў такі ж дзень, як сёння, Станіслаў Костка адправіўся ў падарожжа – не ведаючы, што яго чакае. Ён ведаў толькі тое, што Гасподзь благаславіць яго шлях. Усё, што знаходзіў падчас сваёй вандроўкі, прымаў як Божае благаслаўленне. Ён атрымліваў гэтае "ўсё" і ішоў далей.

3. Здзіўляе і заахвочвае да разважання выказванне, прамоўленае Станіславам па дарозе ў Рым: ***„Я зразумеў, што імкнуўся за нечым вельмі мімалётным. Але маё жаданне было настолькі моцным, што я нават не думаў вяртацца назад. Гэта нашы жаданні вызначаюць, хто мы!”.*** Нашы жаданні акрэсліваюць тое, кім мы з'яўляемся. Калі маем якія-небудзь жаданні, гэта можа азначаць, што яны паходзяць ад Бога, і тады мы павінны іх выконваць.

4. У жаданнях існуе таксама вельмі важнае імкненне пастаянна распазнаваць і выконваць Божую волю. Але Костка рабіў гэта не ў адзіночку, а добрасумленна слухаючы і выконваючы парады духоўных кіраўнікоў ды настаяцеляў.

Часта ў гісторыі св. Станіслава Косткі мы робім акцэнт на яго актыўнасці: на мужнасці, калі адправіўся ў дарогу, і на настойлівасці, калі, нягледзячы на цяжкасці, прытрымліваўся прынятага рашэння. Але тады мы думаем па-людску і прыпісваем усё дзеянням хлопца – быццам зрабіў усё сваімі сіламі. Насамрэч ён толькі адкрыўся на Божую волю і дазволіў сябе весці. І гэта яго галоўны ўрок.

*Апрацавала Ангеліна Марцішэўская на падставе deon.pl, jezuici.pl, biografia24.pl.*

## ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

### Як растлумачыць няверуючаму чалавеку, чаму захоўваю пост і хаджу ў нядзелю ў касцёл?

grodnensis.by

*Размова з няверуючым чалавекам (атэістам ці агностыкам) заўсёды нялёгкая, таму што закранае розныя пытанні адносна веры ў Бога. У такім выпадку трэба найперш размаўляць пра існаванне Бога, пра мой вобраз Бога і пра ўласны досвед веры ў Яго. Няма сэнсу адразу разважаць пра нейкія справы, звязаныя з дысцыплінай Касцёла, таму што няверуючаму гэта будзе незразумела. Чаму? Бо ён не верыць у Бога, а значыць, усё іншае, звязанае з рэлігіяй, не мае сэнсу.*

*Наступным крокам будзе размова пра хрысціянскі лад жыцця (малітва, св. Імша, пост і г. д). Канешне, прыклад веры прыцягвае, і чалавек пачынае цікавіцца. Калі няверуючая асоба гатова слухаць аргументы другога боку, то гэта ўжо вельмі добра. Найперш, падчас размовы трэба распавесці ўласнае сведчанне пра сустрэчу з Богам і як Ён дзейнічае ў маім жыцці – бо гэта самы важкі аргумент!*

*Нават тэалагічныя кнігі не ўзбудзяць веру, бо даюць толькі веды! Вера – гэта маё асабістыя адносіны з Богам! Чаму я веру і люблю Бога? Чаму выбіраю Яго штодня ў сваім жыцці? Чаму гэта вельмі важна для мяне асабіста? Бо менавіта з гэтага вынікае маё жаданне захоўваць пост у пятніцу – дзень смерці Хрыста – і прысутнічаць на нядзельнай Эўхарыстыі – сустрэчы з Уваскрослым!*

*У такой сітуацыі не трэба вялікіх багаслоўскіх аргументаў. Тут усё вельмі асабіста. Спрабаваць размаўляць трэба заўсёды – бо гэта магчымасць абвяшчаць Евангелле!*

# АДКАЗНАСЦЬ ЗА ВЫХАВАННЕ НОВЫХ ПАКАЛЕННЯЎ

працяг са с. 1

**Абавязкі бацькоў перад сваімі дзецьмі не заканчваюцца толькі нараджэннем іх на свет. Праз сакрамант шлюбу Касцёл даручыў ім місію хрысціянскага выхавання. На іх плечы ўскладвае навучанне і вядзенне дзяцей на шляху збаўлення. Бог удзяляе бацькам асаблівыя ласкі і харызмы, каб яны маглі найлепшым чынам падрыхтаваць сваіх дзяцей да самастойнага развіцця і самастойнай дарогі да збаўлення.**

Кс. Юрый Марціновіч




### РЭЛІГІЙНАЕ ВЫХАВАННЕ ДЗІЦЯЦІ

Паводле II Ватыканскага сабору, выхаванне накіравана не толькі на поўнае развіццё чалавечай асобы, але, перш за ўсё, на тое, каб ахрышчаныя, якія паступова знаёмяцца з таямніцай збаўлення, з кожным днём усё больш усведамлялі атрыманы дар веры. Больш за тое, каб, усведамляючы сваё пакліканне, яны сведчылі аб надзеі, якая ёсць у іх, і каб дапамагалі фарміраваць свет па-хрысціянску (параўн. Дэкларацыя аб хрысціянскім выхаванні, 2).

Нельга абмяжоўваць рэлігійную фармацыю дзіцяці адпраўкай "да касцёла". Недастаткова таксама яго прысутнасці на катэхезах. Бацькі сваім прыкладам і словам павінны скіраваць дзіця да Хрыста і навучыць весці сяброўскі дыялог з Ім, пастаянна адказваць на заклік Бога. Навучаючы дзіця быць верным Божым запаведзям і наказам сумлення, бацькі мусяць падрыхтаваць яго да пастаяннага выканання Божай волі і да рэалізацыі свайго жыццёвага паклікання. Усе формы бацькоўскага ўплыву на дзіця павінны быць накіраваны на тое, каб яно вучылася жыць для іншых і такім чынам імкнулася да дасягнення вечнага збаўлення.

### КАНТАКТ З БОГАМ

Каб дзіця магло з даверам звяртацца да Бога, мусіць Яго добра ведаць. Таму бацькі павінны шмат расказваць яму пра Бога, пра Езуса Хрыста. Вельмі важна знаёміць дзіця з Евангеллем з самага ранняга ўзросту, распавядаць пра падзеі з жыцця Езуса і падкрэсліваць Яго дабрыню, вялікую любоў да Айца і да людзей.

Неабходна пераканаць сваё дзіця, што Хрыстос надалей жывы і што з Ім можна заўсёды пагаварыць. Вучыць дзіця пастаяннаму кантакту з Богам – значыць уводзіць яго ў малітоўны дыялог з Ім, які выходзіць за межы паўтарэння малітоўных формул. Хоць завучаныя на памяць малітвы таксама маюць сэнс, яны не могуць стаць адзінай формай размовы з Богам. Таму бацькі павінны навучыць сваіх дзяцей гаварыць з Панам уласнымі словамі, напрыклад, дзякаваць Яму за перажытае цягам дня, прасіць Яго і перапрашаць за памылкі. Можна заахвочваць іх ахвяраваць Збаўцу нейкія непрыемнасці, каб сфарміраваць дух ахвяры і жаданне ўдзельнічаць у збаўчай справе Езуса. Прыклад асабістай размовы з Богам, дадзены бацькамі, дапаможа дзіцяці наладзіць сапраўдны асабісты дыялог з Ім.

Яшчэ вельмі важна ўвесці дзяцей у разважанне літургічных перыядаў, напрыклад, рыхтуючы адвэнтавыя ці велікапосныя ўпрыгажэнні і г. д., а таксама спасылаючыся на іх у малітвах. Трэба вучыць дзяцей належным чынам рыхтавацца да св. Камуніі і сакраманту паяднання, а ў хваробах і няўдачах злучацца з пакутуючым Хрыстом.

### МАРАЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ ДЗІЦЯЦІ

Сямейнае асяроддзе аказвае вельмі моцны ўплыў на дзіця, распрацоўвае ў ім розныя спосабы ацэнкі, прапануе мадэлі паводзін. Вельмі верагодна, што дзіця будзе ставіцца да іншых так, як бацькі ставіліся да яго. Мадэлю абыходжання з людзьмі з'яўляюцца для дзіцяці таксама адносіны бацькоў адзін да аднаго: зычлівыя, чулыя або неахвотныя, зламысныя.

Бацькі павінны ведаць, з кім праводзіць час іх дзіця. Яны самі мусяць клапаціцца, каб сваім прыкладам адносін паміж сабой, да іншых людзей і да дзіцяці навучыць яго паважаць каштоўнасць іншага чалавека, уважліва слухаць яго, суперажываць яго перажываннім, ставіцца да яго сур'ёзна і г. д. Яны таксама павінны моцна кантраляваць уласныя выказванні пра іншых людзей, асабліва ў прысутнасці дзіцяці, напрыклад, добра гаварыць аб адсутных, падкрэсліваць перавагі, а не толькі недахопы бліжніх, пра кожнага казаць з павагай. Словам і прыкладам бацькі вучаць сваіх дзяцей альбо любіць і паважаць Бога і бліжняга, альбо не паважаць і ставіцца з абыякавасцю ці нават грэбаваць.

Для фарміравання правільнага стаўлення важна паказваць дзіцяці адпаведныя станоўчыя прыклады высакародных людзей. Напрыклад, Хрыста, розных святых і нават персанажаў фільмаў, кніг і г. д. Пасля прагляду фільма або прачытання кнігі бацькам варта пагаварыць з дзіцём, навучыць яго заўважаць дабро і адкідваць зло.

Нагодай для рэлігійнай гутаркі можа паслужыць кожная пропаведзь, удзел у катэхезе ці важная падзея ў жыцці сям'і. Для малодшых дзяцей вялікай дапамогай з'яўляюцца адпаведныя ілюстраваныя кнігі, такія, як Святое Пісанне з малюнкамі. Прагляваючы з дзецьмі малюнкі, бацькам варта гаварыць з імі, задаваць пытанні і растлумачваць, каб сфарміраваць адпаведныя маральныя пастаўы. Яны мусяць унесці свой уклад у тое, каб іх сыны і дочкі ў любой жыццёвай сітуацыі ішлі за Хрыстом, дзейнічалі, думалі, ацэньвалі і адчувалі так, як Ён. Яны самі для сваіх дзяцей павінны быць вернай копіяй ахвярнага Збаўцы, які ў сваім жыцці кіраваўся выключна любоўю да Айца і да братоў.

Пастава бацькоў з'яўляецца для дзяцей першым і самым значным узорам паводзін у кожнай сферы жыцця. Малыя назіраюць за рэлігійнымі паставамі бацькоў і штодзённым жыцці і выпрабоўваюць іх. Таму варта быць праўдзівымі і згоднымі з верай у тым, што робіце ў кожнай сферы, каб даваць добры прыклад жыцця.

---

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

*12 верасня – XXIV Звычайная нядзеля*
*Мк 8, 27–35*

Езус са сваімі вучнямі пайшоў у вёскі Цэзарэі Філіпавай. Па дарозе Ён пытаўся ў вучняў сваіх, кажучы ім: "Кім людзі лічаць Мяне?". Яны адказвалі Яму: "Янам Хрысціцелем, другія – Іллёю, іншыя – адным з прарокаў". А Ён спытаўся ў іх: "А вы кім лічыце Мяне?". Пётр сказаў Яму ў адказ: "Ты – Хрыстус". І загадаў ім, каб нікому не казалі пра Яго. І пачаў вучыць іх, што Сын Чалавечы павінен шмат выцерпець, і быць адкінутым старэйшымі, першасвятарамі і кніжнікамі, і быць забітым, і на трэці дзень уваскрэснуць. І казаў пра гэта адкрыта. А Пётр, адвёўшы Яго ў бок, пачаў дакараць Яго. А Ён, павярнуўшыся і паглядзеўшы на сваіх вучняў, дакарыў Пятра, сказаўшы: "Адыдзі ад Мяне, сатана, бо ты не пра Божае думаеш, а пра чалавечае". І, паклікаўшы натоўп разам з вучнямі сваімі, сказаў ім: "Калі хто хоча ісці за Мною, няхай адрачэцца ад сябе, возьме крыж свой і ідзе за мною. Бо той, хто хоча жыццё сваё ўратаваць, загубіць яго, а хто загубіць жыццё сваё дзеля Мяне і Евангелля, той уратуе яго.

### Быць верным

*Дзве тысячы гадоў таму асобу Месіі разумелі як вызваліцеля, ратаўніка з-пад рымскай акупацыі і ўлады. Ён павінен быў аднавіць страчаную свабоду. Яго перамога мусіла стаць канчатковай, несумненнай. Езус "выпраўляе" памылковае чалавечае мысленне аб ролі і задачах Месіі. Ён указвае на крыж, свае пакуты і смерць. Аднак такі вобраз быў для вучняў непрымальным. Вось чаму Пётр "дакарае" Езуса, каб не думаў так, адзначаючы, што нічога з гэтага не можа з Ім адбыцца.*

*Збаўца ж паказвае, што не смерць пакладзе канец дзейнасці Месіі, а Яго ўваскрасенне. Гэта канчатковая перамога над пагібеллю, д'яблам. Ён – Езус Хрыстус – з'яўляецца Панам цэлага свету. Так выглядае Божае мысленне аб ролі Месіі для свету і ўсяго чалавецтва.*

*Нам таксама трэба парваць з падобным чалавечым мысленнем пра Езуса-Месію. Сёння існуе шмат магчымасцей, каб спазнаць, што Езус з'яўляецца Месіем. Але толькі з крыжам, на якім Ён канчаткова "пракрычаў" аб сваёй любові да кожнага чалавека.*

*Пане Езу Хрысце, учыні, каб я заўсёды быў верны, а таксама паслядоўны ў жыцці і дзейнасці.*

*19 верасня – XXV Звычайная нядзеля*
*Мк 9, 30–37*

Езус і Яго вучні выйшлі і праходзілі праз Галілею, і Езус не хацеў, каб нехта ведаў. Бо вучыў сваіх вучняў і казаў ім, што Сын Чалавечы аддадзены будзе ў рукі людзей, і заб'юць Яго, і забіты ўваскрэсне праз тры дні. Але яны не разумелі гэтых слоў, а спытацца ў Яго баяліся.

Прыйшоў Ён у Кафарнаум і, калі быў у доме, спытаўся ў іх: "Пра што па дарозе вы разважалі?". Яны маўчалі, бо па дарозе разважалі паміж сабою, хто большы. Сеўшы, Ён паклікаў Дванаццаць і сказаў ім: "Калі хто хоча быць першым, няхай будзе з усіх апошнім і ўсіх слугою". Потым узяў дзіця, паставіў сярод іх і, абняўшы яго, сказаў ім: "Хто прымае аднаго з такіх дзяцей у Маё імя, той Мяне прымае. А хто Мяне прымае, той не Мяне прымае, але таго, хто паслаў Мяне".

### Быць першым

*Езус Хрыстус навучае сваіх вучняў найважнейшаму закону свайго валадарства – закону служэння. Ён падкрэслівае, што першынство і веліч дасягаюцца не дзякуючы прыніжэнню іншых і завяваванню іх пазіцый, а дзякуючы служэнню ўсім. Каб стаць першым, трэба ўмець заняць апошняе месца, бо не панаванне вядзе да першынства, а служэнне.*

*Настаўнік з Назарэта сам дае прыклад такога стаўлення: Ён прыйшоў не для таго, каб Яму служылі, але каб служыць і аддаць жыццё за многіх. Таму што, як піша св. Павел да Філіпянаў, Езус прынізіў сябе, стаўшы паслухмяным ажно да смерці – найгоршай, прызначанай толькі для рабоў – і атрымаў у спадчыну Імя, вышэйшае за ўсе імёны.*

*Узыходжанне Езуса на Божы трон з'яўляецца следствам Яго прыніжэння і прыняцця паставы слугі. Гэта правераны і бяспечны спосаб дасягнення першынства. Шлях, які ўзбагачае, не зьбядняючы іншых. Гэта не дарога канкурэнтнай барацьбы, а дарога любові, якая заўсёды павінна выяўляцца пастаўай служэння.*

*Збаўца заахвочвае нас заўсёды старацца быць першымі, але не праз спрэчкі, сваркі і прыніжэнне іншых, а праз служэнне любоўю. Гэта гарантуе прыярытэт, які павінен быць нашай амбіцыяй. Езус не адмаўляе амбіцый, але паказвае іх належнае вымярэнне і належны шлях рэалізацыі.*

*Пане Езу Хрысце, дапамагай мне заўсёды служыць маім братам і сёстрам: і блізкім, і выпадковым, якіх Ты штодзень ставіш побач са мной.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ ЖУРАЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цеплынёй, радасцю і надзеяй, вера толькі ўзмацняецца, і ўсё рэалізуецца дзякуючы дапамозе Пана і добрых людзей.*

*Вернікі парафіі Нававельня*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ САРЭЛУ

*з нагоды дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога заступніка, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама добразычлівых людзей навокал. Няхай добры Бог блаславіць Вас і ўзнагароджвае за Вашу дабрыню і вялікае сэрца.*

*Станіслава Сідаровіч і Люцыя Лабэцкая с Воўпы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ САРЭЛУ

*з нагоды дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, радасці, моцнага здароўя, цярплівасці і стойкасці на святарскім шляху. Няхай Божая Маці няспынна Вамі апекуецца, а Святы Дух адорвае сваімі шчодрымі дарамі. Шчасці Божа!*

*Марыя Вішнеўская і Вітольда Скорб з Воўпы*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ЯЦЭКУ МАРКЕЛЮ

*з нагоды імянін ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, моцы, цярплівасці, нястомнай радасці і надзеі на кожны дзень. Няхай кожная Твая хвіліна будзе шчаслівай і блаславёнай, а побач будуць зычлівыя людзі. Няхай Марыя Панна і Анёл-ахоўнік няспынна Табой апекуюцца, а з твару не знікае шчаслівая ўсмешка.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Зэльвы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АЛЯКСАНДРУ РАМАНОЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння і 18-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем поспехаў у душпастырскай паслузе, шчодрых дароў Святога Духа і мацярынскай апекі Марыі. Няхай Езус адорыць Вас патрэбнымі ласкамі і спадарожнічае на той дарозе, якую сам для Вас выбраў. Няхай свята малітвы Вашых парафіян за Вас заўсёды раз'ясняе Ваш шлях і дадае ўпэўненасці крокам на абранай жыццёвай сцежцы.*

*Парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯНУ ПУЗЫНУ

*з нагоды 25-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў і дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, душэўнага супакою, моцнай веры, аптымізму і шмат радасці ў святарскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Маці вядзе Вас найпрыгажэйшай сцежкай да Бога. Дзякуючы Вашаму святарскаму таленту і ахвярнай працы, Вы раскрываеце нам праўды веры і самі з'яўляецеся прыкладам служэння Богу і людзям.*

*Парафіяне касцёла св. Міхала Арханёла ў Ашмянах*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРЭЛАТУ ВІТОЛЬДУ ЛАЗАВІЦКАМУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае Вас здароўем на доўгія гады і дадае сіл, каб далей ісці Яго дарогай. Няхай Хрыстос, якому Вы давeрыліся, будзе побач, узмацняе і абярагае, а Маці Божая заўсёды мае ў сваёй апецы.*

*Вернікі з в. Галавенчыцы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ ЖУРАЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем здароўя і шмат Божых ласкаў у штодзённай святарскай паслузе. Няхай Вам заўсёды спадарожнічае Божая любоў, Святы Дух адорвае сваімі дарамі, а Найсвяцейшая Маці нястомна чувае над Вамі. Жадаем радасці, моцнага запалу ў выкананні штодзённых задач і абавязкаў, якія Вам дaручае Касцёл. Любіце святарства і будзьце яму верным да канца жыцця! Дзякуем Вам за клопат пра нашу святыню.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Нававельні*

### ПАВАЖАНАЙ СЯСТРЫ МАРЫІ СТАСЕВІЧ

*з нагоды дня нараджэння перасылаю букет найлепшых пажаданняў. Няхай Ваш шлях будзе шчаслівы і бласлаўлёны, а супакой і радасць заўсёды госцяць у Вашым сэрцы. Жадаю моцнага здароўя, сілы, стойкасці, моцнай веры, надзеі і любові.*

*З малітвай Аліцыя Воранава са Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ЯЦЭКУ МАРКЕЛЮ

*з нагоды юбілею 55-годдзя з дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Няхай Вас заўсёды акружаюць промні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святы заступнік заўсёды знаходзіцца побач.*

*Члены Руж Жывога Ружанца*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ УЛАДЗІМІРУ АКСЕНЦЬЕВУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні: здароўя, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай паслузе, нязгаснай любові і веры, а таксама зычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай Бог блаславіць Вас і ўзнагароджвае за нястомную працу і малітву.*

*Вернікі з в. Еўлашы, Доўгая і Багданы парафіі Лядск*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

У сувязі з працэсам, што праводзіцца ў Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі, **спадара Базылевіча Барыса Юр'евіча**, які 26.09.1999 г. у праваслаўнай царкве св. Мікалая ў Вялікай Берастаўіцы заключыў сужэнскі саюз з **Брыш Марыяй Вацлаваўнай,** просім звярнуцца ў сядзібу Касцёльнага суда ў Гродне па адрасе: **вул. К.Маркса, 4.**

Чытачоў, якія ведаюць адрас жыхарства ці валодаюць якой-небудзь інфармацыяй аб месцы побыту **Базылевіча Барыса Юр'евіча** 14.07.1979 г. нар., просім перадаць гэтую інфармацыю ў Касцёльны суд.

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

25 жніўня пры кляштары францысканцаў у Івянцы прайшоў дзень засяроджання для маладых братоў і сясцёр з манаскіх супольнасцей Беларусі. Сёлетняя сустрэча праходзіла пад дэвізам "Вы – соль зямлі (Мц 5, 13)" і была прысвечана каштоўнасці і ролі манаскага жыцця.

Падчас сустрэчы біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB нагадаў, што прыклад кансэкраванага жыцця даў сам Езус Хрыстус, які жыў ва ўбостве, чысціні і паслухмянасці. Таму, на думку пастыра, манаскае жыццё заключаецца менавіта ў тым, каб мець такі стыль жыцця, які меў Хрыстос, бо перад кансэкраванымі асобамі стаіць задача не дапусціць, каб людзі забыліся пра духоўную сферу існавання чалавека.




**газета Віцебскай дыяцэзіі**

Юбілейная 5-ая школа міністрантаў прайшла ў парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Верхнядзвінску напрыканцы лета. Традыцыйна тры дні хлопцы мелі магчымасць аднавіць і ўзбагаціць свае веды па тэорыі і практыцы літургіі, супольна памаліцца падчас св. Імшы і адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, а таксама пабавіць час, гуляючы ў настольны тэніс і футбол.

Асаблівасцю сёлетняй сустрэчы стаў курс цесляра, на якім хлопцы самастойна рабілі ружанцы. Спачатку выточвалі драўляныя пацеркі на станку, потым выпільвалі электралобзікам крыжыкі, а пасля шліфоўкі звязвалі ўсе дэталі ў паўнавартасную "таямнічку". Гатовыя ружанцы адразу ж былі выкарыстаны на малітве падчас адарацыі.




**беларуская рэдакцыя**

У верасні Папа заклікае маліцца аб тым, каб людзі зрабілі выбар на карысць экалагічна ўраўнаважанага стылю жыцця. Ён просіць падумаць пра наш лад жыцця, асабліва ў цяперашні час крызісу, які ахапіў сферы аховы здароўя, грамадства і экалогіі. "Падумаем пра тое, як мы харчуемся, спажываем, перасоўваемся ці выкарыстоўваем ваду, энергію, пластмасу і многія іншыя матэрыяльныя даброты, што нярэдка наносіць шкоду Зямлі. Давайце зробім выбар на карысць перамен! Давайце ісці разам да больш простага і экалагічнага ладу жыцця", – заахвоціў Святы Айцец.

Пантыфік падкрэсліў, што моладзь знаходзіцца ў авангардзе, што тычыцца клопату пра планету, і заахвоціў следаваць яе прыкладу.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

30 жніўня ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі) у Гродне адбылася сустрэча катэхетаў, якія служаць на тэрыторыі Гродзенскай дыяцэзіі. Ёю быў урачыста адкрыты катэхетычны год у дыяцэзіі.

На сустрэчы сабралася больш за 50 катэхетаў: святары, манаскія сёстры, свецкія асобы. Прысутныя выслухалі дзве канферэнцыі, удзельнічалі ў малітве перад Найсвяцейшым Сакрамантам і ў св. Імшы.

Асаблівым чынам была адзначана важнасць прабывання з маладымі людзьмі.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія;** год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3433; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.